

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№42 (1059) 1 сакавіка 1995 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 558399 экз. Кошт у розніцу — 200 руб.

## ФАКС

*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

### Вкратце

***Джохар Дудаев и его сторонники пытаются превратить Гудермес и Шали в основные опорные пункты сопротивления федеральным войскам в Чечне.***

Об этом заявил министр обороны России Павел Грачев, выступая в Москве на заседании руководящего состава военного ведомства, посвященном подведению предварительных итогов операции в Чечне.

❑

***Размер минимальной заработной платы в России достигает в настоящее время лишь 12% от прожиточного минимума трудоспособного гражданина.***

По экспертным оценкам, за последний год минимальная зарплата "отстала" от прожиточного минимума еще на 16% - в начале прошлого года она составляла 28%.

Сегодня прожиточный минимум определен в 170 тыс. рублей в месяц. Минимальная зарплата - 20,5 тыс. рублей.

❑

***За прошедшие сутки в Грозном продолжались работы по обеспечению населения питьевой водой и продовольствием.***

В частности, действующие в городе службы МЧС очистили и передали жителям 70 кубометров отфильтрованной воды.

Для работ по ремонту водозабора, который находится у моста через Сунжу, завезено 80 тонн щебня.

❑

***Президент Киргизии Аскар Акаев подписал указ о создании общественной комиссии по выборам в новый двухпалатный парламент республики.***

Комиссия создается для осуществления общественного контроля за продолжающимися в Киргизии парламентскими выборами, а также для рассмотрения жалоб и заявлений, связанных с нарушениями закона о выборах.

❑

***Национальную грузинскую валюту - лари - предполагается ввести в обращение уже в первом полугодии 1995 года, заявили на пресс-конференции в Тбилиси вице-премьер Грузии Теймураз Басилия и президент Национального банка республики Нодар Джавахишвили.***

Н.Джавахишвили сообщил, что предполагается приравнять лари по номиналу к американскому доллару - 1:1.

На вопросы журналистов, какой будет средняя зарплата в республике, Н.Джавахишвили отметил, что ее размеры будут пересмотрены и, видимо, достигнут 28-60 долларов в месяц.

❑

***Со вторника на неопределенное время отменены все пассажирские поезда из Грузии в Армению.***

Как сообщили в грузинском департаменте железнодорожного транспорта, это стало следствием жесточайшего энергетического кризиса в республике.

❑




Рисунок Олега ПОПОВА.

***Бывшая главный бухгалтер Калининградского отделения "Русского Дома Селенга" Т.Лепина дала признательные показания о хищении с помощью подложных документов крупных денежных сумм.***

Размер нанесенного ею ущерба устанавливается. Против Т.Лепиной возбуждено уголовное дело по признакам первой части 147-й статьи УК РФ (мошенничество).

❑

***7 марта в Великокняжеской усыпальнице Петропавловского собора в Санкт-Петербурге состоится церемония перезахоронения останков потомков императорской семьи — Кирилла Владимировича Романова и его супруги Виктории Федоровны Романовой, похороненных в городе Кобурге (Германия).***

Как сообщили в пресс-центре мэрии города, все расходы по перезахоронению берет на себя великая княгиня Леонида Георгиевна Романова. В церемонии примет участие великокняжеская семья, которая прибудет в Санкт-Петербург 6 марта.



**Курсы обмена наличных валют** в коммерческих банках на 28 февраля 1995 г.
тел./факс (0172) 325-105

| НАИМЕНОВАНИЕ БАНКА | Доллар США | | Немецкая марка | | Российск. рубль | | Телефоны для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | |
| 1. ф-л "МИНСККОМПЛЕКСБАНК" (за рос. рубли) | 11460* 4570 | 11750 | 7640* | 7945 | 2.454 | 2.60 | 067 |
| 2. БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11500* | 11800 | 7805* | 8005 | 2.00 | 2.50 | 267-022 |
| 3. БЕЛАРУСБАНК | 11484 11542* | 12120* | 7623 7660** | 7979* | 2.80* | 3.00* | 239-250 |
| 4. БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. операц. управ.) | 11500* | 11800* | 7600* | 7900* | 2.20 | 2.70 | 067 |
| 5. НАРОДНЫЙ БАНК | 11450* | 11750 | 7600* | 7880 | 2.30 | 2.58 | 238-610 |
| 6. "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11400 | 11700 | 7300 | 7800 | | | 293-095 |
| 7. СБЕРБАНК | 11400 11630** | 11700 11800** | 7550 | 7800 | 2.35 | 2.60 | 067 |
| 8. "ОЛИМП" | 11480* | 11690 11800** | 7557* | 7773 7846** | 2.40* | 2.55 2.67** | 508-556 |
| 9. "ДУКАТ" | 11500* | 11800 | 7600* | 8000 | 2.30 | 2.80 | 201-063 |
| 10. ИНФОБАНК | 11470 | 11800 | 7400 | 7800 | 2.00 | 2.80 | |
| 11. "БЕЛБАЛТИЯ" | 11400 | 11650 | 7350 | 7550 | 2.45 | 2.55 | |
| 12. "СОЛИД" | 11450 | 11780 | 7650 | 7900 | 2.45 | 2.65 | 202-993 067 |
| 13. ПРИОРБАНК | 11500 11600** | 11750 | 7720 7790** | 7970 | 2.30 | 2.65 | 690-964 |
| 14. МИЛАВИЦА филиал АКБ "ДУКАТ" | 11450* | 11800 | 7400 | 7850 | 2.10 | 2.60 | 372-825 |
| 15. ВЕЛЕС филиал АКБ "ДУКАТ" | 11460 | 11800 | 7650 | 7900 | | | |
| 16. БЕЛИНВЕСТБАНК | 11400 | 11700 | 7400 | 7800 | 2.10 | 2.60 | |
| 17. "ЕВРОПЕЙСКИЙ" | 11450 11550** | 11750 11800** | 7500 7550** | 7750 7800** | 2.10 2.20** | 2.55 2.65** | 270-166 |
| 18. ПРОФБАНК | 11450 11500** | 11700 11800** | 7500 7550** | 7750 7800** | | 2.80 2.90** | 239-344 |
| 19. МАГНАТБАНК ф-л 001 | 11400* | 11650* | 7400* | 7700* | 2.30 | 2.50* | |
| 20. СП "ГУБИСС РЕСУРС" | 11450 | 11700 | 7400 | 7800 | 2.45 | 2.80 | 769-177 |

*-Возможна операция за наличный и безналичный расчет

**-Операция проводится только по безналичному расчету

### Снова дорожает проезд

***В марте снова ожидается подорожание проезда в городском транспорте столицы.***

Как предполагается, один талон будет стоить ровно тысячу рублей. Прыжок, конечно, резкий. Но, как сообщили корреспонденту Белинформа в управлении транспорта и связи Мингорисполкома, все это делается в полном соответствии с положениями правительственной антикризисной программы.

Она ставит перед пассажирским общественным транспортом задачу — постепенно выходить на самоокупаемость, сокращая суммы государственных дотаций.

Чтобы как-то смягчить тяжелую для многих ситуацию, принято решение о введении декадных проездных билетов. Они уже продаются в городе. Приобрести их удобно и в чем-то даже выгодно, но только в розницу. Для предприятий и организаций, которые обеспечивают своих работников проездными документами по безналичному расчету, остаются прежние правила, также, как и для студентов, школьников.

Есть для пассажиров добрая новость. Скоро появятся в продаже проездные билеты на три вида транспорта. До этого времени были только на один, два, четыре.

**Татьяна СМИРНОВА.**

### Помогай, Сорос, помогай...

***На днях состоялся VI съезд Белорусского фонда Сороса. Его делегатов приветствовали гости из соседних государств — представители фондов Сороса Литвы, США, Украины и России.***

Участники VI съезда Белорусского Фонда Сороса обсудили и приняли большинством голосов изменения в Уставе этой республиканской общественной организации. Отныне функции правления Белорусского фонда Сороса перешли к его наблюдательному совету — органу, который осуществляет руководство деятельностью фонда в промежутках между съездами. В ближайшее время состоится заседание наблюдательного совета, на котором будут утверждены приоритетные направления деятельности БФС.

На VI съезде Белорусского Фонда Сороса впервые избрана его ревизионная комиссия и утверждены ее полномочия.

### Генштаб отрабатывает оборону

***27 февраля в Главном штабе Вооруженных Сил Республики Беларусь началась штабная тренировка, в ходе которой будут отрабатываться вопросы ведения обороны.***

Для тренировки привлечены оперативные группы от силовых министерств, а также пограничных и железнодорожных войск. Руководит операцией начальник Главного штаба, первый заместитель министра обороны Республики Беларусь генерал-лейтенант Леонид Мальцев.

Завершится штабная тренировка 1 марта.

### Ранние пташки

***20 февраля гродненские орнитологи зафиксировали на окраинах этого областного центра ранний прилет жаворонков.***

Это всего второй случай за последние 70 лет. Самый ранний прилет жаворонков, как свидетельствуют архивные записи, был отмечен на Гродненщине 14 февраля 1925 года.

**Антон ГОРОДЕНСКИЙ.**

### Жертвы собственной алчности...

***Гомельщина переживает медную лихорадку.***

Практически ежедневно происходят кражи цветных металлов. Причем нередко незадачливые воришки становятся жертвами собственного порока. Так, в деревне Ванюжичи одного из районов области при хищении медных пластин с подстанции был смертельно травмирован 20-летний неработающий Н. При попытке вскрыть электротрансформаторный шкаф также на подстанции был убит током 8-летний мальчик. Молодой человек, забравшись на крышу молочно-товарной фермы в надежде поживиться медным кабелем, тоже был поражен электротоком.

**Ирина ШАНЦЕВА.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, БелаПАН, РИД.**

У нумар!

## Якую заразу падхапіў Бальшавік?

**Больш за сотню жыхароў прысталічнага пасёлка — работнікаў аднайменнага саўгаса і 1-й Мінскай птушкафабрыкі атрымалі вострыя страўнікавыя атручэнні. Эпідэмія ўзрастае...**

**Віктар ЧАРНУШЭНКА**

Першыя пацыенты з такім дыягназам звярнуліся ў мясцовую папярнянскую амбулаторыю яшчэ ў мінулую пятніцу. За выхадныя дні хвароба перакінулася на дзесяткі дарослых і дзяцей.

У панядзелак было прынята рашэнне закрыць школу і дзіцячы садок. Колькасць тых, хто ўжо звярнуўся ў амбулаторыю, на ўчарашні дзень пераваліла за сотню. Больш за 60 чалавек атрымалі лісты непрацаздольнасці. У пасёлку адключылі цэнтральнае водазабеспячэнне.

...Прыязджаю ў амбулаторыю, што ў цэнтры Бальшавіка. У кабінеце галоўнага ўрача Людмілы Весялуха ідзе нарада — сабраліся спецыялісты з раённага і абласнога цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі і нават з Інстытута мікрабіялогіі Міністэрства аховы здароўя.

З парога пытаюся: "Ці праўда, што атручэнні вызвалі трупныя палачкі?

— Іх не існуе ў прыродзе, — сказала загадчык аддзела абласнога цэнтра Людміла Мосіна.

— ?.. Дык якая зараза і адкуль ахапіла Бальшавік?

— Пакуль што не ведаем. Праводзяцца бактэрыялагічныя і вірусалагічныя даследаванні. Крыху пазней усё стане ясна. А ўвогуле ўсе пытанні — толькі да кіраўніцтва службы.

Людміла Весялуха адмовілася хоць што-небудзь сказаць наконт хворых. Больш гаваркімі былі іншыя медработнікі і пацыенты, што стаялі ў калідоры, чакаючы прыёму.

Людміла Самсонава, эканаміст птушкафабрыкі:

— Я хварэю ўжо пяты дзень... Выпісалі парашкі, крыху лягчэй, але не ведаеш, чаго сцерагчыся.

Еўдакім Гарбузаў, каваль саўгаса:

— Вось не думаў, што гэтая зараза можа зваліць здаровага чалавека. Тэмпература пад 38°, ірвота, і, прабачце, "по большому" бегаеш бесперапынна.

Частка работнікаў амбулаторыі таксама выпрабавала хваробу на сваім страўніку. Але, як кажуць, выстаяла на нагах, бо трэба рабіць абходы хворых. На дапамогу да іх прыехалі з раёна. Асабліва шкада дзяцей. Некаторых прыйшлося накіраваць у інфекцыйную бальніцу ў Мінск.

Пакуль што не ўстаноўлена крыніца атручэння, цяжка змагацца з хваробай. Найбольш верагодна, што зараза прыйшла з вадой. Але не будзем рабіць паспешлівых высноў. Не сёння заўтра ўсё праясніцца. Будзем чакаць, што адкажуць спецыялісты і праводзіць уласнае журналісцкае расследаванне. У такім экалагічна небяспечным месцы, дзе жыве каля 4 тысяч чалавек, вельмі шмат розных праблем... Падрабязнасці — у наступных нумарах.

УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва

Меры, што прымаюцца ў апошні час па пераадоленню эканамічнага крызісу, аказваюць істотны ўплыў на выпраўленне сітуацыі. Аднак тэндэнцыя да зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва ўсе яшчэ захоўваецца. Асабліва вострая гэта праблема для работнікаў бюджэтнай сферы, пенсіянераў, студэнтаў, а таксама работнікаў часткі прадпрыемстваў матэрыяльнай вытворчасці, якія пакуль што не змаглі адаптавацца да новых умоў гаспадарання.

Разам з тым шэраг прадпрыемстваў неабгрунтавана, без усякай сувязі з вынікамі гаспадарання завышаюць узровень аплаты працы сваім работнікам, адначасова патрабуючы дапамогі ад урада, такія дзеянні вядуць да дэстабілізацыі сацыяльна-эканамічнага і палітычнага становішча ў краіне.

У сувязі з вышэйпададзеным **пастанаўляю:**

1. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 сакавіка 1995 г. прыняць пастанову аб павышэнні заработнай платы, пенсій і дапамог насельніцтву.

2. Суб'ектам гаспадарання дзяржаўнай формы ўласнасці, узровень тарыфнай стаўкі 1-га разраду якіх перавышае ўстаноўлены ўзровень гэтай стаўкі для работнікаў бюджэтнай сферы, далейшае павышэнне заработнай платы ажжыцяўляць толькі ў прамой залежнасці ад росту аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, павышэння эфектыўнасці гаспадарання.

Устанавіць, што кіраўнікі ўказаных суб'ектаў гаспадарання нясуць за гэта персанальную адказнасць аж да скасавання кантракта.

3. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь правесці перагаворы з работадаўцамі і прафсаюзамі аб заключэнні пагаднення па недапушчэнню неабгрунтаванага росту заработнай платы і цэн.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

№ 92
27 лютага 1995 г.
г. Мінск.

УЧОРА Ў МАСКВЕ

## Хто будзе карміць Расію?

Гэта пытанне вісела своеасаблівым дамоклавым мечам у зале пасяджэнняў расійскіх сенатараў, якія ўчора ў тэрміновым парадку разгледзелі пытанне "Аб неадкладных мерах па падрыхтоўцы і правядзенню веснавых палявых работ у Расійскай Федэрацыі ў 1995 годзе". Справа ў тым, што па даўняй партыйна-савецкай традыцыі прынятыя ў гэты ж перыяд мінулага года пастановы па пытаннях аграпрамысловага комплексу не выкананы. Дастаткова сказаць, што фінансаванне разгорнутых, як правіла, федэральных праграм, накіраваных на павелічэнне вытворчасці айчынных прадуктаў харчавання, ажыццёўлена на... 5 працэнтаў. І сёлета міністр АПК Расійскай Федэрацыі А.Х.Заверуха намаляваў жудаснае эканамічна-фінансавае становішча калгасаў і саўгасаў, дзе рэфарміраванне нават не пачыналася. Згодна са статыстыкай, у мінулым гаспадарчым годзе гулагаўскі монстр "праглынуў" аж 13 трыльёнаў рублёў. Дзе знікла гэтая агромністая інвестыцыя, ніхто ў АПК не можа сказаць. А між іншым, вытворчасць збожжа скарацілася толькі за мінулы год на 8 мільёнаў тон, у дзесяткі разоў зменшылася ў некаторых рэгіёнах пагалоўе буйной рагатай жывёлы, авечак, свіней. Парламентарыі справядліва гаварылі, што дзяржаўныя грошы зніклі ў "чорнай дзірцы" каманднаразмеркавальнай сістэмы аграпрамысловага комплексу. І няма ніякай гарантыі, бо механізм размеркавання крэдытаў дзейнічае па старой савецкай сістэме, што і выдзеленыя сёлета з бюджэту 18 трыльёнаў крэдытаў для патрэб сельскагаспадарчай вытворчасці напаткае мінулагодні лёс. Інфармацыя, якая паступае с месцаў, сведчыць, што ў некаторых абласцях і рэспубліках няма ні каліва насення збожжавых культур. А ў паўднёвых гаспадарках гатоўнасць да веснавой сяўбы ацэньваецца ў межах 50—70 працэнтаў.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ,**
**уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў Маскве.**

ЗАКОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні дапаўнення ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях"

З мэтай удасканалення прававога рэгулявання дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Дапоўніць артыкул 9 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях", прынятага 4 кастрычніка 1994 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1994 г., №29, арт. 503), часткай трэцяй наступнага зместу:

"У выпадках, прадугледжаных статутам грамадскага аб'яднання, яго членамі могуць з'яўляцца юрыдычныя асобы, якія дзейнічаюць праз сваіх прадстаўнікоў. Прадстаўнікі юрыдычнай асобы прымаюць удзел у рабоце грамадскага аб'яднання на падставе службовых паўнамоцтваў або даверанасці".

2. Увесці гэты Закон у дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

31 студзеня 1995 г., г.Мінск.
№ 3560-XII

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

I. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 21 снежня 1994 года "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь" наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У частцы першай артыкула 1 слова "вышэйшы" замяніць словам "найвышэйшы".

2. У частцы другой артыкула 4 пасля слова "з'яўляецца" дапоўніць словам "заканадаўчым".

3. У артыкуле 9 выключыць словы "ў адпаведнасці з".

4. У артыкуле 11 словы "якія закранаюць інтарэсы" замяніць словамі "дзяржаўнага і грамадскага жыцця".

5. Артыкул 14 пасля слова "выбараў" дапоўніць словамі "Вярхоўнага Савета новага склікання".

6. У частцы трэцяй артыкула 39:

пасля слоў "законаў Рэспублікі Беларусь" дапоўніць словамі "і пастаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь";

пасля слова "праектаў" выключыць слова "законаў".

7. Артыкул 43 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"Артыкул 43. На аснове Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і ў мэтах яе выканання толькі законам могуць рэгулявацца асноўны змест і прынцыпы ажыццяўлення:

правоў, свабод і абавязкаў грамадзян Рэспублікі Беларусь;

форм непасрэднай і прадстаўнічай дэмакратыі, удзелу грамадзян і іх аб'яднанняў у вырашэнні дзяржаўных спраў;

пытанняў грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

адносін уласнасці;

крымінальнай, грамадзянска-прававой, адміністрацыйнай і іншай адказнасці;

парадку фарміравання і дзейнасці заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, органаў кіравання і самакіравання;

дзейнасці праваахоўных органаў;

пытанняў дзяржаўнай сімволікі;

адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Рэспублікі Беларусь;

дзейнасць фінансава-крэдытнай сістэмы;

прававога статусу сродкаў масавай інфармацыі;

рэжыму надзвычайнага становішча;

іншых пытанняў, калі Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь яны аднесены да заканадаўчага рэгулявання".

8. Частку трэцюю артыкула 51 дапоўніць сказам: "У гэтым выпадку Прэзідэнт абавязаны падпісаць закон у трохдзённы тэрмін; не вернуты Прэзідэнтам ва ўказаны тэрмін закон лічыцца падпісаным".

9. У частцы першай артыкула 54:

у першым сказе слова "Вярхоўнага Савета" замяніць словамі "прынятыя Вярхоўным Саветам";

другі сказ дапоўніць словамі "калі іншы тэрмін не вызначаны Вярхоўным Саветам".

10. У артыкуле 56:

абзац восьмы выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"дзейнасцю органаў Вярхоўнага Савета";

абзац дзевяты выключыць.

11. Артыкул 63 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

"Трансляцыя пасяджэнняў Вярхоўнага Савета ажыццяўляецца ў парадку і аб'еме, вызначанымі Вярхоўным Саветам".

12. Абзац сёмы артыкула 70 выключыць.

13. Абзац чацвёрты артыкула 87 дапоўніць словамі "па пытаннях выканання заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь".

14. Абзац пяты часткі першай артыкула 110 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"забяспечваецца бясплатнае дзяржаўнае страхаванне на выпадак прычынення яго жыццю ці здароўю ўрону, звязанага з выкананнем службовых абавязкаў, а таксама на выпадак хваробы або страты працаздольнасці, якая настала ў перыяд знаходжання на службе, з выплатай страхавых сум:

у выпадку смерці (гібелі) у сувязі з выкананнем службовых абавязкаў — у памеры 250 мінімальных заработных плат;

пры атрыманні інваліднасці, звязанай з выкананнем службовых абавязкаў:

інваліду I групы — 100 мінімальных заработных плат;

інваліду II групы — 75 мінімальных заработных плат;

інваліду III групы — 50 мінімальных заработных плат".

15. У артыкуле 111 словы "класнага чыну" замяніць словамі "класа служачага".

16. У артыкуле 112 выключыць апошні сказ.

17. У артыкуле 113:

у частцы першай словы "пяці" і "ўласніка прадпрыемства, арганізацыі, установы або ўпаўнаважанага ім органа" замяніць адпаведна словамі "двух" і "наймальніка";

у частцы другой слова "пяці" замяніць словам "двух".

18. У частцы другой артыкула 114:

пачатак першага сказа выкласці ў наступнай рэдакцыі: "Былому дэпутату Вярхоўнага Савета, пачынаючы з дванаццатага склікання, за выключэннем дэпутатаў, паўнамоцтвы якіх спынены ў адпаведнасці з пунктамі 5, 6, 7, 8, 9 артыкула 95 гэтага Закона па яго звароту";

у першым сказе: словы "або пры дасягненні ім пенсіённага ўзросту" замяніць словамі "або пры ўзнікненні ў яго права на атрыманне пенсіі".

19. У артыкуле 115:

у частцы першай выключыць слова "бясплатна";

другую частку артыкула выключыць.

20. У абзацы восьмым часткі першай артыкула 116 выключыць словы "ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі".

21. У артыкуле 118:

дапоўніць артыкул новай часткай наступнага зместу:

"Забараняецца якім бы там ні было асобам прысутнічаць на пленарных пасяджэннях Вярхоўнага Савета з агнястрэльнай зброяй";

частку першую лічыць адпаведна часткай другой.

II. Увесці гэты Закон у дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

9 лютага 1995 г., г.Мінск. № 3574-XII

*Закон лічыцца падпісаным згодна з п. 20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.*

Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб змяненнях у складзе Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў

Разгледзеўшы заявы членаў Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў на падставе артыкула 20 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь", Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Вызваліць ад абавязкаў членаў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў **Лапу** Ганну Іосіфаўну і **Тозіка** Леаніда Апанасавіча згодна з пададзенымі заявамі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

20 лютага 1995 г., г.Мінск,
№ 3596-XII

## У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

***28 лютага пад старшынствам першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета В.Кузняцова адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета.***

Абмеркаваны пытанні, якія плануецца разгледзець на пленарных пасяджэннях сесіі Вярхоўнага Савета з 1 сакавіка 1995 года. Сярод іх — аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб пенсіённым забеспячэнні"; аб законапраектах: "Аб радыяцыйнай бяспецы і дзейнасці па выкарыстанню атамнай энергіі", "Аб арганізацыйна-прававых мерах барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй", "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь"; аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета "Аб арганізацыі і правядзенні выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь". Разгледжаны таксама пытанні ўзнагароджанняў і іншыя.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь— Белінфарм.**

## "Пристаканился"

***Самодеятельный "налог" за транспортировку российских нефтепродуктов через Беларусь упорно берет неизвестный злоумышленник в Оршанском районе.***

В третий раз за последнее время он приделывает кран к продуктопроводу, подающему дизельное топливо из Уренгоя, и пополняет свои запасы горючего. В каждом подобном случае немало солярки вытекает уже после ее кражи, поскольку кустарный кран выдерживает давление в трубе очень недолго. На сей раз вредной для природы жидкостью была пропитана полоса земли в километр длиной у деревни Застенки.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

## Пожарные достанут и на льду!

По данным Главного управления военизированной пожарной службы МВД Республики Беларусь, за прошедшую неделю в стране произошло 232 пожара, ущерб от которых составил 330,1 миллиона рублей. Огнем уничтожено и повреждено 115 строений, 7 голов скота, 8 тонн грубых кормов, 12 единиц техники. На пожарах погибли 11 человек, из них один — ребенок.

24 февраля в 10.33 на Минском водохранилище в микрорайоне Чижовка пожарными ВПЧ-3 спасен провалившийся под лед мужчина 1931 года рождения, а 6 человек выведены со льда на берег. Все потерпевшие занимались подледной рыбалкой.

**Татьяна ЗАГВОЗДКИНА, РИД.**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

ПУЛЬС ДНЯ

## Для новых рабочих мест

**ТЕЛЬ-АВИВ.** 5 миллионов долларов предоставила Япония палестинской администрации для создания дополнительных рабочих мест в Секторе Газа. Полученные деньги будут использованы для выплаты зарплаты 2000 рабочим. Эти средства — часть 20-миллионного вливания в Палестину, заявил посол Японии в Израиле.

## Археологическая находка

**ТЕГЕРАН.** Иранские археологи обнаружили на юге страны развалины города-крепости времен династии Сасанидов (3—7 века нашей эры). Им уже удалось раскопать бастион и несколько жилых зданий. Один из археологов расценил архитектуру древнего города как "уникальную и объединяющую в себе парфянский и сасанидский стили. Раскопки в городе, находящемся в 65 километрах к северо-востоку от Бушехра, продолжаются.

## Гибель от взрыва

**БАГДАД.** По меньшей мере 54 человека погибли в результате мощного взрыва заминированной автомашины в городке Захо на севере Ирака, близ границы с Турцией. Инцидент произошел в деловом центре города, контролируемого курдами. По свидетельству очевидцев, еще 80 человек получили ранения, причем 15 из них серьезные. Представители госпиталя, куда они были доставлены, выражают опасения, что в списке жертв еще не поставлена последняя точка.

## Титанический труд завершен

**ТЕГЕРАН.** Иранские каллиграфы Тахер Хошневис и Осман Таха закончили 30-летний труд над самым большим в мире Кораном. Эта копия Священной книги мусульман имеет размеры 122 на 192 сантиметра, и каждая ее страница с выписанными вручную сурами окрашена в разные цвета. Имена пророка Мухаммеда, его дочери Фатимы, имамов Али, Хасана и Хусейна запечатлены фосфорной краской и поэтому светятся в темноте. Материалом для книги послужила хлопковая бумага особой выделки. Мастеров, завершивших начатую в 1964 году работу, поздравил президент Ирана Хашеми-Рафсанджани, осмотревший достойную "Книги рекордов Гиннесса" копию Корана.

МІНСК — ПЕКІН

# IV. Вялікая кітайская сцяна, якую называюць цудам свету

**Язэп ЗАБАРАЎСКІ**

Пабываць у Кітаі і не паглядзець на Вялікую кітайскую сцяну — для журналіста недаравальна. Тым больш што адзін з яе участкаў — усяго ў нейкіх сарака пяці кіламетрах ад Пекіна. Менш гадзіны — і перад тваімі вачыма сапраўдны цуд свету.

Рукі самі цягнуцца да фотаапарата — кадр, яшчэ адзін, яшчэ... Побач выбіраюць ракурс і шчоўкаюць затворамі амерыканцы і французы, японцы і немцы, галандцы і аўстралійцы... Надвор'е ў той дзень выдалася сонечным, і здавалася, што велічная сцяна сама пазіруе кожнаму, хто за тысячы кіламетраў прыехаў пакланіцца гэтаму унікуму сусветнай архітэктуры, незвычайнаму майстэрству і непамернай працавітасці мільёнаў кітайцаў.

Колькі часу я знаёміўся з Вялікай сцяной, столькі думаў: ну як, як гэта можна было 2000 гадоў таму назад пабудаваць такую махіну?! Без кранаў і верталётаў, без бульдозераў, самазвалаў... А яшчэ — на крутых, абрывістых скалах, у глыбокіх цяснінах і ў дзікіх пустынях.

Прыладкаваўшыся да адной з расійскіх экскурсійных груп, я стаў лавіць кожнае слова маладой кітаянкі-перакладчыцы. Першы камень пакладзены ў Вялікую сцяну яшчэ ў 221 годзе да нашай эры, адразу пасля аб'яднання краіны. І зрабіў гэта першы імператар Кітая Цінь Шыхуан з мэтай ўзвесці крапасную сцяну, якая б абараняла дзяржаву ад іншаземных захопнікаў. Каб работы вяліся шпаркімі тэмпамі, на пабудову сцяны была накіравана 300-тысячная армія, якую ўзначаліў вядомы палкаводзец Мэн Цянь. Для падтрымкі мабілізавалі яшчэ незлічоную колькасць сялян.

На колькі кіламетраў, вы думаеце, працягнулася Вялікая кітайская сцяна? На 250 — 300... Глыбока памыляецеся — агульная даўжыня яе, калі ўлічыць ўсе зігзагі і адросткі, амаль шэсць тысяч семсот кіламетраў (!), альбо дзесяць тысяч так званых кітайскіх лі.

Не, не на газетным здымку разглядаць кітайскі цуд свету! Трэба рукамі дакрануцца да яе камянёў, моўчкі пастаяць і палюбавацца яе хараством, яе велічнасцю, яе магутнасцю. Так, так — магутнасцю. Уявіце сабе: сярэдняя вышыня сцен з зубцамі больш як восем метраў, шырыня — ад 6,5 метра ў падножжы да 6,5 метра зверху. На тым участку, дзе я быў, сёння па сцяне ходзяць толькі пешыя экскурсіі, а некалі, дзве тысячы гадоў таму назад, на ёй разміналіся сустрэчныя калясніцы.

У нас сімвалам мужнасці стала Брэсцкая крэпасць. Такім жа сімвалам мужнасці ў Кітаі стала Вялікая кітайская сцяна. Колькі разоў спыняла яна розных праклятых ворагаў! Пра гэта сёння турыстам напамінаюць моцныя башні, якія стаяць праз кожныя 120 метраў.

Мне, вядома, не ўдалося пазнаёміцца з ўсёй Вялікай кітайскай сцяной, ды і ці ёсць наогул чалавек, які змераў бы сваімі нагамі ўсю гэту веліч? Нават цягніку цяжка паднімацца ў многіх месцах. Турысты, якія прыбываюць, напрыклад, на станцыю Наньkoу, вымушаны чакаць, пакуль састаў не падмацуецца яшчэ адным лакаматывам. Уверх-уверх — і вось перад вачыма высачэзныя горныя шпілі і контуры старажытнай сцяны.

Крыху далей Вялікая кітайская ўецца па вузкай цясніне, якая называецца Цзюйюнуань. Можаце не паверыць, але даўжыня яе стужкі тут больш за пяцьдзесят кіламетраў. Зноў жа міжволі свідруе думка: ну як, як у такой вузкай цясніне можна было пабудаваць сцяну-помнік? А па метрыках гэты участак быў ўзведзены у 1368 годзе палкаводцам Сюй Да.



❑ *Вялікая кітайская сцяна.*

Фота аўтара.

Прыемна адзначыць: едзеш, каб глянуць хоць разок за ўсё жыццё на Вялікую кітайскую сцяну, а пазнаёмішся шмат з чым іншым, даведаешся пра такіх людзей, прозвішчы якіх ніколі і не чуў. Ад той жа вузкай-вузкай цясніны Цзюйюнуань да хрыбта Бадалін — не адна сотня кіламетраў. Калі цягнік прыбывае на станцыю Цінлунцяо, турысты міжволі звяртаюць увагу на помнік інжынеру Чжань Цянью. "Вялікі кітаец" — так называюць гэтага чалавека, аднаго з самых таленавітых інжынераў-будаўнікоў далёкіх часоў. Сваёй галавой ён заслужыў таго, каб ведалі не толькі ў Пекіне, але і ў Мінску, Варшаве, Нью-Йорку... Кітай аб'явіў, гаворачы сённяшняй тэрміналогіяй, конкурс: хто прапануе найлепшы праект пракладвання чыгуначнай дарогі ў недаступных для нагі чалавека гарах? Замежныя інжынеры-будаўнікі адказалі: гэта немагчыма. І толькі Чжань Цянью сказаў: гэта магчыма. Ён сам спраектаваў вялікі адрэзак чыгуначнай дарогі і асабіста кіраваў яе будаўніцтвам. Чыгуначнікі ведаюць, які велізарны ўклад унёс гэты вядомы кітаец у развіццё сусветнай чыгуначнай тэхнікі. Здаецца, што такое аўтаматычная счэпка? А вось пакуль Чжань Цянью не прыдумаў яе — колькі было згублена часу, сіл, матэрыяльных каштоўнасцей.

Вялікая кітайская сцяна — гэта не толькі сама сцяна. І справа і злева ад яе — вартавыя вежы. У іх ёсць яшчэ адна назва — сігнальныя, і будаваліся яны не проста воддаль ад сцяны, а абавязкова на вяршыне гары. З тым, каб з адной вежы можна было бачыць другую і пры неабходнасці перадаваць сігнал трывогі. Сёння існуе многа відаў ваеннай сігналізацыі, а калісьці гэтую ролю выконвалі вось такія вежы, узведзеныя на вяршынях гор. Лёгка сказаць — на вяршынях гор. А паспрабуй зацягнуць туды мільёны каменных пліт — да сённяшняга дня ніхто не можа разгадаць загадак тагачасных будаўнікоў.

... Людзі ведаюць пра некалькі цудаў свету. Адзін з іх — у Кітаі. Паедзьце, паглядзіце, можа, вы знойдзеце ключы ад яго таямнічых сакрэтаў. А пабываць у Кітаі вам дапаможа тая ж мінская знакамітая фірма "Алатан-авіятур", нумары тэлефонаў якой ... **29-32-61** ці **76-84-22.**

РЕПОРТЁР УЗНАЛ

## Чемпиону — позолоченный унитаз

***Этим летом в США состоится очередной чемпионат мира по метанию... унитазов. По традиции соревнования пройдут в г.Пласервилл, штат Калифорния.***

Спортсменам, которые забросят стандартный американский унитаз дальше соперников, будут вручены денежные премии и призы — уменьшенные позолоченные копии "метательного снаряда".

**Алесь ВЕТЕР.**

## Доктор Ван предупреждает: храп опасен для здоровья

***Если вы сотрясаете стены спальни громогласным храпом, ввергая в ужас ближних своих и соседей, самое время записаться на прием к отоларингологу. Доктор Ван Юфу из 6-й пекинской больницы предупреждает: храп опасен для вашего здоровья самыми нежелательными последствиями.***

Результаты многолетних исследований этого известного эксперта опровергают бытовавшее в Китае мнение, что издаваемые в объятиях Морфея посапывание, посвистывание и тому подобные звуки — верный показатель отменного здоровья. "Жаловаться грех — каждую ночь храпака задает", — нередко произносилось в семейном кругу для характеристики завидного самочувствия кого-нибудь из родственников.

Согласно же теории Ван, все совсем не так, и храп громче 60 децибел — это не что иное, как проявление патологии дыхательной системы, чреватое целым "букетом" заболеваний и даже внезапной смертью. Если в течение 7-часового сна кратковременные перерывы дыхания, сопряженные с храпом, происходят более 30 раз, у человека развивается особый синдром.

Приятного мало: постоянная сонливость, изнуряющие головные боли, плохая память. Все это, утверждает Ван, оборачивается гипертонией, аритмией и другими сердечно-сосудистыми недугами. Таким тяжелым заболеваниям в первую очередь подвержены тучные мужчины, разменявшие пятый десяток. Скапливающийся на шее жир давит на дыхательные пути, и кровь недополучает положенную порцию кислорода.

Впрочем, отчаиваться рано. С середины 80-х годов Ван Юфу провела свыше 200 операций по удалению излишней жировой прослойки. 95 процентов пациентов смогли избавиться от рокового храпа. Если хирургическое вмешательство нежелательно, китайские эксперты рекомендуют диету и разнообразные дыхательные комплексы, которыми столь богата традиционная восточная медицина. Дело благое: избавляясь от неприятной привычки, пациент ко всему прочему дарует безмятежный сон своим домашним.

**Вячеслав ТОМИЛИН.**

## Ветэранам Вялікай Айчыннай вайны на Украіне выдзеляць матэрыяльную дапамогу ў памеры ад 3 да 8 доляраў ЗША

***Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма выдаў указ аб святкаванні 50-годдзя Перамогі, якім прадугледжана, у прыватнасці, прадаставіць матэрыяльную дапамогу інвалідам і ўдовам загінуўшых у Вялікай Айчыннай вайне ў памеры 1 мільёна карбованцаў (8,7 долара).***

Удзельнікам баявых дзеянняў прадугледжана выплата 700 тысяч карбованцаў (менш як 5 доляраў), астатнім удзельнікам вайны — 400 тысяч карбованцаў (каля 3 доляраў). У сувязі з гэтым указам прадстаўнікі камуністычнай фракцыі ў Вярхоўным Савеце Украіны выступілі з прапановай павялічыць памеры дапамогі ветэранам вайны і інвалідам.

**Іван ТУЛІНСКІ.**

# Отзовись, Саша!






Иван Артемович Конопелько пришел в редакцию и положил на стол вот этот снимок. История его такова.

Польша. Январь 1945 года. Польский священник и фотолюбитель предложил двум советским бойцам сфотографироваться на память. Иван и его друг Александр (на снимке слева) в то время были рядовыми солдатами 461-го стрелкового полка 142-й дивизии 1-й ударной армии 2-го Белорусского фронта.

А вскоре был бой под городом Пултуск. Здесь снайпера Ивана Конопелько тяжело ранило, и он оказался в госпитале. А Александр, видимо, ушел вперед с товарищами. Так они расстались.

Кстати, за этот бой позднее Иван Артемович был награжден орденом Славы III степени.

Фотографии этой — ровно полвека. Нередко, листая семейный альбом, его хозяин спрашивает себя: остался ли в живых Саша, и если да, то где он сейчас? Правда, память не сохранила фамилию боевого товарища. Знает лишь, что родом он из Червеня.

Вот и пришел ветеран Великой Отечественной войны Иван Артемович Конопелько в редакцию с просьбой напечатать этот фронтовой снимок. А вдруг Александр узнает себя и его, Ивана?! Тогда пусть напишет по адресу: **220015, г.Минск, ул. Одоевского, 81, кв. 23, домашний тел. 51-84-49.**

Встретятся два фронтовых товарища. И будет у них двойной праздник Победы.

**Николай ЦАПОВ.**

## Вновь перенесены сроки визита Бориса Ельцина на Украину

***Пресс-служба президента Украины распространила информацию о том, что визит президента России Бориса Ельцина в эту страну переносится на неопределенный срок.***

Комментируя сообщение, руководитель администрации президента Украины Д.Табачник заявил, что причиной переноса сроков визита является то, что до сих пор не согласованы положения договора о разделе Черноморского флота. Еще одна причина, вероятно, заключается в том, что украинская сторона не согласна признать русский язык вторым государственным языком на Украине.

**Иван ТУЛИНСКИЙ.**

## Бойтесь банков, проценты сулящих!

***Национальный банк Республики Беларусь предостерегает население страны от размещения денежных средств на вкладах (депозитах) различных финансовых компаний и обществ.***

Национальный банк разъясняет, что, кроме банков, лицензии на осуществление данного вида финансовых операций никому не выдавались. Поэтому возврат средств гражданам от субъектов хозяйствования, привлекающих деньги во вклады без соответствующей лицензии, никем не гарантирован.

**Сергей ВЕРАС.**

5 минут на интервью

# Белорусская рок-музыка уже звучит в Каннах. Во многом благодаря "Дайнове"

**Алесь СИВЫЙ**

***На днях во французском городе Канны прошел международный музыкальный рынок "МИДЕМ". Впервые за всю историю там была представлена и Беларусь в лице директора организации "Студия-Топ" Николая Гребенкина.***

***По приезде последнего домой наш корреспондент побеседовал с ним.***

**— Николай, начнем с "МИДЕМА"...**

— В Каннах собрались представители музыкальных международных организаций со всего мира, среди которых была и наша. Каждая организация представляла музыкальную продукцию своих стран, а продюсеры ее покупали.

**— Какие группы представляли вы?**

— "Краму" и "Палац". Причем предварительные переговоры с французской радиостанцией, продюсером из Монте-Карло, музыкальной программой MTV и заводом по производству компакт-дисков прошли довольно успешно. В марте мы планируем начать рекламную кампанию этих рок-групп в Европе.

**— Проект будет осуществлять только "Студия-Топ"?**

— Почему же? У нас есть партнеры. Кстати, Беларусь музыкальная появилась во Франции благодаря фирме "Дайнова", которая выступила спонсором этой поездки.

**— Интерес к нашим группам проявляли?**

— Мы считаем, что белорусская культура очень богата, и белорусский язык не является преградой для выхода на музыкальные рынки ни России (о чем свидетельствует успех "Крамы" на международном фестивале "Поколение-94"), ни Европы. К сожалению, бытует среди музыкантов и иная точка зрения: если я, мол, пою на русском языке, значит лавры популярности мне уже гарантированы. Музыку "Крамы" и "Палаца" в Каннах приняли тепло, даже чуть с удивлением. И это радует!

**P.S. В последний момент стало известно, что гитарист "Крамы" Сергей Труханович, признанный на международном музыкальном фестивале "Поколение-94" лучшим, ушел из группы и сейчас играет в "Палацы". Его место в "Краме" занял Аркадий Юшин, ранее игравший в "Фарпосте".**

СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

## Сцюарту пагражаюць "слугі д'ябла"

Вядомаму спеваку Роду Сцюарту і яго жонцы Рэйчэл Хантэр пагражаюць смерцю "слугі д'ябла".

У сувязі з гэтым канцэрт Сцюарта на стадыёне ў Глазга, запланаваны на 3 чэрвеня, будзе ахоўвацца асабліва старанна. На "ваеннае" становішча спеваку і яго жонцы давялося перайсці пасля таго, як у адну з шатландскіх газет прыйшло пісьмо ад групы "сатаністаў", якія падрабязна апісваюць план нападзення на іх. Яшчэ адно пісьмо з пагрозай закалоць Сцюарта і расстраляць яго жонку-фотамадэль было адпраўлена ў офіс спевака.

Пісьмы старанна даследуюцца адпаведнымі органамі.

## "Турэмныя універсітэты" Майка Тайсана

Экс-чэмпіён свету па боксу сярод цяжкавагавікоў-прафесіяналаў Майк Тайсан мае намер вярнуцца на рынг пасля таго, як закончыцца тэрмін яго турэмнага зняволення.

Асуджаны за згвалтаванне былы баксёр заявіў, што вельмі хацеў бы зноў надзець пальчаткі, хаця не ўяўляе сабе — калі і супраць каго яму давядзецца выступаць. Па словах Тайсана, усе два з паловай гады, праведзеныя за кратамі, яго не пакідала думка аб працягу баксёрскай кар'еры, хаця ні разу за гэтыя гады ён не глядзеў па тэлевізары выступленні сваіх верагодных сапернікаў. Тым не менш Майк заявіў: "Я вярнуся на рынг толькі перамагаць і буду ў форме да першага ж свайго бою пасля вызвалення". У маі 1996 года заканчваецца палавіна з тых шасці гадоў, на якія ён быў асуджаны, і, па дзеючых у ЗША законах, ён можа быць умоўна вызвалены. "Я з нецярпеннем чакаю таго дня, калі змагу пакінуць турму, каб жыць нармальным здаровым жыццём. Паўтараю, ніякага злачынства я не зрабіў, мае адвакаты проста не змаглі абараніць мяне ў судзе", — сказаў экс-чэмпіён.

"Знаходжанне ў турме, — працягвае ён, — нягледзячы на тое, што гэта вельмі цяжка, дапамагае мне. Я стаў шмат чытаць і навучыўся змагацца з сумам. Устаю ў чатыры раніцы, чытаю і малюся. У восем прыступаю да трэніровак, пасля чаго вяртаюся ў камеру. Яшчэ раз выходжу на вуліцу ўжо ў 11.15 і зноў трэніруюся. У 15.00 — абед, пасля чаго часам гляджу кінакарціну".

## Ты памятаеш, як усё пачыналася?

Спявачка Чэрыл Кроў "мае віды" на свайго куміра Боба Дзілана.

Пасля сумеснага з ім турнэ па Амерыцы Чэрыл паведаміла журналістам, што Дзілан прапанаваў ёй дапамогу і "пакінуў свой нумар тэлефона". "Ён быў такі адкрыты, шчыры... Магчыма, я калі-небудзь яму і пазваню", — прызналася артыстка.

## "Семнаццаць імгненняў" Джэймса Бонда

У Джэймса Бонда з'явіліся новыя сяброўкі (адна з іх — руская), і яго босам стала жанчына. У семнаццатым фільме пра самага вядомага ў свеце шпіёна ў ролі "агента 007" упершыню зняўся ірландскі акцёр П'ер Бронсан.

Сяброўак Бонда сыгралі малавядомыя актрысы Ізабэла Скарупсо са Швецыі і немка Фамке Джасен (яна знялася ў ролі рускай дзяўчыны Ксеніі).

## Не старэюць хіты-"ветэраны"...

Песня Бруса Спрынгсціна "Born to Run", напісаная больш як дваццаць гадоў назад, прызнана "лепшым хітом усіх часоў і народаў".

Яна "абскакала" нават сінгл "бітлаў" "Yesterday" — па крайняй меры так сцвярджаюць лонданская газета "Таймс" і радыёкампанія Бі-бі-сі.

## "Забаронены плод" Г.Форда

Галівудскі баявік "Уцякач", паказ якога быў прыпынены ўладамі Кітая ў канцы мінулага года, каб спыніць "тлятворны ўплыў Захаду", зноў выйшаў на экраны краіны.

Гэты фільм з Гарысанам Фордам у галоўнай ролі стаў першым з дзесяці заходніх стужак, якія па рашэнню ўрада будуць штогод імпартавацца ў Кітай.

## Гастранамічны канал

Амерыканскія паэты індустрыі забаў стварылі новы (501-ы) кабельны тэлеканал "ЦіВі Фуд Нэтуорк".

24 гадзіны ў суткі канал знаёміць гурманаў з кулінарнымі традыцыямі і кухнямі свету. Зоркі эстрады і кіно, повары, афіцыянты, бармены дзеляцца любімымі рэцэптамі, сакрэтамі сервіроўкі. Урачы расказваюць пра гігіену харчавання, а энтузіясты даюць каштоўныя парады пра тое, як пракарміць сям'ю на 75 доляраў (мізэрная для амерыканцаў сума) у тыдзень.

"ЦіВі Фуд Нэтуорк" карыстаецца стабільным поспехам у слабага полу. А віцэ-прэзідэнт канала запэўнівае, што на тэлебачанні, як і ў жыцці, няма нічога такога, чаго нельга было б абмеркаваць "пад гастранамічным вуглом".

## Рэп — пад забарону?

Міністэрства навукі і тэхналогій Інданезіі прызнала рэп "вельмі шкодным" для моладзі.

Кіраўнік міністэрства Юсіф Хабібі выступіў па нацыянальным тэлебачанні з заявай аб тым, што "нельга дазволіць рэп-музыцы пранікнуць у інданезійскую культуру".

**БелаПАН.**

## Лічыльнікі патрэбны, але хто заплаціць?

З пачатку 1995 года ніводны новы ці адрэстаўрыраваны дом на Гродзеншчыне не павінен уводзіцца ў эксплуатацыю без установкі лічыльнікаў энергіі, вады і паліва.

Тры чвэрці іх кошту павінны кампенсавацца з бюджэту, а чвэрць — даплачваць насельніцтва. Толькі ці рэальна гэта? Бо газавы лічыльнік каштуе 60—80 доляраў, а лічыльнік вады — 20 доляраў. У Гродне падлічылі, што на кампенсацыю расходаў насельніцтву па ўстаноўцы лічыльнікаў трэба выдаткаваць 5 мільярдаў рублёў.

**Ніна МАКСІМЧЫК, РІД.**

ЗАКОН И Я

## Раздел ведет доктор юридических наук профессор Василий Федорович ЧИГИР

# Живите спокойно. Ваш участок останется у вас

***Читатель Степурко В.М. пишет, что в садоводческих товариществах агитируют за выкуп членами товариществ земельных участков в частную собственность. Он спрашивает: "Будут ли отбирать садовые участки у тех, кто их не приватизировал?"***

Закон Республики Беларусь от 16 июня 1993 г. "О праве собственности на землю" предоставляет право гражданам, имеющим во владении и пользовании земельные участки, предоставленные им до принятия этого Закона для ведения личного подсобного хозяйства, строительства и обслуживания жилого дома, садоводства и дачного строительства, приобрести один из этих участков в частную собственность по льготной цене в течение 18 месяцев с момента вступления в силу названного Закона. Он вступил в силу с 1 сентября 1993 г. После истечения этого срока граждане теряют право на приобретение земельного участка в собственность по льготной цене, но сохраняют право приобрести земельный участок по нормативной цене. Это не означает, что у граждан, которым предоставлены земельные участки для указанных выше целей, они будут отобраны в случае, если владельцы их не выкупят. Граждане Республики Беларусь имеют право, но не обязаны приобретать предоставленные им земельные участки в частную собственность.

"Порядок приобретения членами садоводческих товариществ земельных участков в частную собственность" утвержден постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 4 ноября 1993 г. N 754. В этом нормативном акте изложены правила о приобретении права частной собственности на садовый участок или закреплении такого участка в пожизненное наследуемое владение. Председателем Комитета по земельной реформе и землеустройству при Совете Министров Республики Беларусь 19 ноября 1993 г. утверждены Указания по оформлению материалов на приобретение членами садоводческих товариществ земельных участков в частную собственность или закрепление их в пожизненное наследуемое владение.

Члены садоводческих товариществ самостоятельно решают вопрос о приобретении предоставленных им земельных участков в частную собственность или о закреплении их в пожизненное наследуемое владение и подают через правление садоводческого товарищества в районный Совет депутатов заявление о передаче им земельных участков в частную собственность. В заявлениях указываются сведения о наличии в их владении (пользовании) других земельных участков. Правление садоводческого товарищества при необходимости созывает общее собрание членов товарищества, на котором определяются условия и порядок производства работ по передаче земельных участков в частную собственность.

Работы по передаче земельных участков в частную собственность и закреплению их в пожизненное наследуемое владение проводятся одновременно на территории всего садоводческого товарищества.

Садоводческое товарищество обеспечивает изготовление необходимой документации и принимает меры по урегулированию конфликтов по поводу границ приобретаемых членами товарищества земельных участков.

Правление товарищества направляет в районный Совет ходатайство о передаче земельных участков в частную собственность и закреплении в пожизненное наследуемое владение членов товарищества с приложением необходимой документации. Райсовет депутатов регистрирует заявления членов садоводческого товарищества и поручает отделу по земельной реформе и землеустройству или уполномоченному лицу землеустроительной службы подготовить предложения о стоимости передаваемых в частную собственность земельных участков и другие материалы для решения поставленных вопросов. Этот отдел или указанное уполномоченное лицо совместно с правлением садоводческого товарищества на месте проверяет соответствие данных о границах участков, содержащихся в представленных правлением материалах, фактическим границам на местности. При отсутствии отступлений от проекта организации и застройки территории садоводческого товарищества, повлекших нарушения противопожарных, санитарных и природоохранных требований, предложения о передаче членам садоводческого товарищества земельных участков в собственность и закреплении в пожизненное наследуемое владение вносятся на рассмотрение в Совет депутатов, который в месячный срок рассматривает представленные ему материалы и принимает решение с указанием в нем площади земельных участков, передаваемых в частную собственность и закрепляемых в пожизненное наследуемое владение членов садоводческого товарищества, размера платы за землю, приобретаемую в частную собственность, а также сроков ее внесения. В соответствии с принятым решением составляются государственные акты на право частной собственности на землю, на право пожизненного наследуемого владения землей членам садоводческого товарищества и на право постоянного владения землей садоводческому товариществу. Государственный акт на право частной собственности на землю членам садоводческого товарищества выдается после внесения ими платы за землю. Составление государственных актов осуществляется за счет средств членов садоводческого товарищества.

